Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл**. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 2. Вільня, Пятніца, 3-га кастрычніка 1924 г. Год I.

## Шуканьне вінавайцау.

Ледзьве прагрымела справа нападу на Стоўпцы, а вось ужо маем новы напад—і то напад яшчэ больш сьмелы, бо зроблены ў белы дзень на цягнік, у якім ехаў біскуп Лозіньскі, палескі ваявода Довнаровіч, акружны камандант паліцыі Менсовіч і інш. *пад ахранай*, як піша „Kur. Warsz.“, *некалькіх аружных паліцыянтаў і васьмёх жандароў*....

У сувязі з штодзеннымі дробнымі нападамі на панскія двары, ксяндзоўскія плебаніі і падарожных на публічных дарогах, у сувязі з чысьленымі за апошнія дні—як выражаецца „Słowo“—„таёмнымі пажарамі“, якія нішчаць увесь сабраны з дворных палёў ураджай,—гэты апошні напад толькі дапаўняе і без таго яркі абраз палажэньня ў Заходняй Беларусі.

Нам давялося гэтымі днямі перагледзіць адзін з нумароў выдаванага ў Варшаве расейскімі чорнасоценцамі тыднёвіка „Недѣля Окраины“ (характэрна: „окраина“ значыць тое-ж, што польскае слова „Kresy“!)—з жніўня месяца 1906 году. Вось-жа там у адзеле „По Россіи“ блізу паўтары страніцы займаюць весткі аб сялянскім аграрным руху, палітычных забойствах і замахах, разгромах двароў, нападах на цягнікі і рабаваньні падарожных, аб работніцкіх забастоўках і... прэсавых рэпрэсіях і палітычных працэсах! Якжа ўсё гэта падобна да вестак, кожын дзень сустраканых цяпер на страніцах польскіх газэт!

Дык ня дзіва, што польскае грамадзянства і польская прэса крэпка ўстрывожаны тым, што ў нас дзеецца. Ня дзіва, што польскі ўрад бяз конца шлець на ўсходнюю граніцу войска, замяняючы ім паліцыю. Ня дзіва, што назначае ў беларускія ваяводзтвы ваенных генерал-ваяводаў... Усё гэта—*одрух* на выпадкі, якія выклікаюць *паважную трывогу.*

Але страх—благі райчы. І крокі, робленыя ў мамэнт перапуду — без паважнага і ўсестароннага адуму—рэдка дасягаюць мэты. Так не дасягаюць мэты і крокі польскага ўраду, бо вось—сьледам за нападам на цягнік пад Лунінцом—газэты падаюць весткі аб радзе новых нападаў....

Паўторым словы міністра Гюбнэра, што „адносіны на Крэсах запраўды не залежаць толькі ад міністэрства ўнутраных спраў“ („Kur. Pol.“). Гэта—вынік цэлага камплексу прычын, якія выклікаюць нездаваленьне беларускіх масаў польскаю ўладаю. Міністар Гюбнэр адзначае дзьве балячкі: *зямельную справу і падатковыя цяжары.* Але п. міністар не ўспамінае (трэба думаць, зусім сьвядома!) яшчэ аб трэцяй і мо' найважнейшай: *аб палітычным, сацыяльным і нацыянальным уціску беларускага насяленьня*! Не дарма-ж атаман Кальненка, які напаў на цягнік з польскімі „дастойнікамі“, выступаў ад імя беларускае арганізацыі: відаць, беларускае нацыянальнае пытаньне пастаўлена ў Польшчы так, што *пад беларускай нацыянальнай фірмай* Кальненка разьлічае на *большую прыхільнасьць насяленьня*, чым пад *сацыяльнай*!

Гэтая беларуская (ці, як пішуць некаторыя газэты: беларуска-украінская) фірма дала повад польскай чорнай сотні вінаваціць нашых паслоў, што ад іх нацыянальнай агітацыі расьце бандытызм! „Gaz. Warsz.“ прыводзе голас нейкага абшарніка з Валыні, які на страніцах „Słowa Polsk.“ выступае проці „бяскарнае агітацыі русінскіх, беларускіх і польскіх паслоў з Вызваленьня“ і кліча ўладу да рэпрэсій проці гэтых паслоў.

Выступленьне гэтае вельмі напамінае выступленьні ў 1905—6 г. г. маскоўскіх чорнасоценцаў, якія ў-ва ўсіх нападах і экспрапрыяцыях таго часу вінавацілі перш за ўсё жыдоў і... *палякоў*, ня хочучы зразумець, што бунтаўнічы настрой у масах быў вынікам іменна агульнае палітыкі расейскага ўраду. Выпадкі 1905—6 г. г. у Расеі нічога не навучылі ані польскіх чорнасоценцаў, ані польскае адміністрацыі....

Шукаючы вінавайцаў таго, што ў Заходняй Беларусі так свабодна разьвіваюць сваю дзейнасьць Кальненка і яму падобныя „атаманы“, мы ўсьцяж даходзім да сказанага вышэй: *да польскае „крэсавае“ (дый і агульнадзяржаўнае!) палітыкі.* Ня гледзячы на жальбы абшарнікаў на „шкодную“ дзейнасьць нашых паслоў, мы павінны цьвёрда заявіць, што іменна *недапушчэньне ўладай свабоднае арганізацыі* беларускіх працоўных масаў на грунце нацыянальным і сацыяльным, не даючы ім магчымасьці выліць сваё абурэньне на нялічаныя гвалты і крыўды ў форме арганізованае канстытуцыйнае барацьбы, несьвядома *падгатаўляе грунт дзеля партызанцкіх, анархічных выступленьняў нездаволеных элемэнтаў* пад кіраўніцтвам таго ці іншага адважнага „атамана“. Гэта зусім адкрыта кажа ўжо нават разумнейшая польская прэса („Kur. Pol.“), гэта чытаем між радкоў нават міністэрскага інтэрвью з супрацоўнікам „Kur. Pol.“.

Адзіны выхад з палажэньня: *даць Заходняй Беларусі магчымасьць самой наладзіць сваё жыцьцё*, выкарыстаўшы дзеля творчае працы ўсе жывыя сілы беларускага насяленьня, якія цяпер гібеюць на вёсцы бескарысна, павялічываючы адно толькі кадры нездаволеных. Але *на гэта польскі ўрад ня думае йсьці.* Замест здаваленьня слушных дамаганьняў нашага народу, творацца розныя фальсыфікаты беларускага грамадзкага прадстаўніцтва: „Грамадзянскія Сабраньні“, „Часовыя Рады“, ды канфэрэнцыі дзеля школьных спраў, скліканыя нейкімі цёмнымі фігурамі (Фёдоровъ—„тоже бѣлоруссъ“!), якія заяўляюць, што беларускае насяленьне пад уладай Польшчы „ўсім чым давольна“.

Дарэмныя гэта патугі: Валэйшы і Федоровы не перамогуць Кальненкаў, ня зробяць здаволенымі—нездаволеных!

## У зачарованым коле.

Ня гледзячы на „санацыю“ польскае валюты, ня гледзячы на тое, што польскі злоты **на загранічных біржах** мае сталы, моцны курс, роўны цане золата,—на **ўнутраным рынку** мы бачым сталы ўпадак цэннасьці яго.

Дый не аднаго толькі злотага: бо-ж у Польшчы з кожным днём паніжаецца цэннасьць і пакупная сілы грошы наагул: і золата, і даляра і ўсякае іншае валюты. Бо з кожным днём у Польшчы **расьце дарагоўля**.

Год назад, калі адбываўся катастрафічны ўпадак цаны польскае маркі, дарагоўля, папраўдзі, не расла, а стаяла на адным месцы, й за даляра ці за залаты рубель і ў леташнім чэрвені, і ў леташнім кастрычніку можна было купіць тую самую сколькасьць кожнага тавару. Цяпер вытварылася новае палажэньне: цана тавараў расьце, **цэннасьць грошы зьмяншаецца**.

У сваім аглядзе польскага гаспадарчага жыцьця „Kurjer Polski“ дае жменю цікавых вестак аб росьце дарагоўлі ў Польшчы.

Агульны **паказчык гуртоўных цэн і паказчык коштаў жыцьця за няпоўныя два месяцы падскочылі на 10 і больш процантаў**, што пры сталай валюце зьяўляецца, ведама, нязвычайна паважнай розьніцай.

Бліжэйшы цыфровы аналіз паказуе, што гэты ўзрост блізу цалком прыпадае на сельска-гаспадарскія прадукты, галоўным чынам на жыта. Дабываныя ў нас прадукты зямляробства, малочныя, ды мяса пераходзяць ужо да катэгорыі найдаражэйшых тавараў, раўнуючы да перадваенных цэн.

„Kur. Pol.“ прадбачыць вельмі сумныя вынікі гэтага зьявішча.

Нельга запярэчыць, кажа газэта, што, калі гэтая тэндэнцыя вывіцца йшчэ мацней у адносінах да цэн спажыўных прадуктаў, дык **польская прамысловасьць можа апынуцца ў нязвычайна цяжкім палажэньні.** Нятолькі нельга будзе гаварыць аб далейшым паніжэньні коштаў вытворчасьці, але нават удзяржаньне іх на сяньняшняй вышыні будзе ўжо здавацца ідэалам. Польскі ўрад у сувязі з ростам дарагоўлі ўжо быў прымушаны **павялічыць пэнсіі** сваім урадоўцам **на блізу 10 процантаў. Таго-ж бязспрэчна зажадаюць і работнікі**, што працуюць у фабрыках, капальнях і ўсякіх прамысловых прадпрыемствах.

І вось гатова прычына, ад якое пачнуць скакаць уверх цэны такжа і **фабрычных вырабаў**. Дарагоўля абніме ўсё наагул. А польскі злоты, такі „моцны“ на заграічнай біржы, будзе ў руках грамадзян Польшчы з кожным днём усё больш губляць сваю цэннасьць...

Урад бяссільны зрабіць што-колечы дзеля спыненьня росту дарагоўлі, — кажа „Kur. Pol.“. I орган польскае паступовае буржуазіі не знаходзіць іншае дарогі, як **пераклясьці ўвесь цяжар дарагоўлі на работнікаў Польшчы, павялічываючы далей час працы!**

Польшча, якая цьвёрда стаіць на грунце абароны „сьвятога права прыватнае ўласнасьці“, калі справа йдзе аб капіталістаў, абшарнікаў і прамыслоўцаў, зарабляючых, як нядаўна пісала „Gaz. Warsz.“, па 100 і 200 процантаў на свой капітал, — гэтая самая „дэмакратычная“ Польшча не завагаецца пасягнуць на **запраўды сьвятое права ўласнасьці работніка на яго рабочую сілу**, каб толькі ня зьменшыліся аграмадныя заробкі фабрыкантаў.

Ёсьць і другі выхад з утварыўшагася палажэньня: адкрыць граніцы Польшчы дзеля ўвозу бяз ніякіх аплат чужаземных вырабаў, якія, купляючы за польскія злотыя, каштуюць шмат таньней, чым польскія вырабы. Але тады ізноў пацерпяць і польскія прамыслоўцы, якім ужо і сьніць нельга будзе аб цяперашніх заробках, і польскія работнікі, для якіх ня будзе працы ў спыненых фабрыках.

Такім парадкам Польшча—пасьля „санацыі“ валюты коштам народных масаў, цераз меру абцяжоных падаткамі,—апынулася ў запраўды **зачарованым коле**, з якога ня відаць зусім выхаду. І труднасьць палажэньня будзе большаць яшчэ ў меру таго, як эканамічнае жыцьцё Эўропы даходзе да нормы, як узмацовываецца прамысловасьць самага небясьпечнага польскага суседа і канкурэнта—Нямеччыны!

З вялізарным багацьцем, якое Вэрсальскі мір даў Польшчы, адабраўшы ў суседзяў, з багатымі запасамі горна-сьлёнскага вугальля і беларускага лесу Польшча ня здолела даць рады. **Эканамічная самастойнасьць Польшчы** гэтак пераживае вельмі **цяжкі крызіс.**

**К. Фальневіч.**

## Магіла Максіма Багдановіча.

Па даручэньню Інбелкульту група нашых маладых пісьменьнікаў, лечачыся ў Ялце (Крым), прыклала стараньні, каб адшукаць на адным з тамашніх магільнікаў магілу нашага без пары памёршага паэта Максіма Багдановіча (памёр 12 мая 1917 г.). Ад іх у Менску атрымана тэлеграма, што ім удалося адшукаць магілу пісьменьніка. Яна аказалася разбуранаю і размытаю.

Па дакладу Інбелкульту, Цэнтр. Вык. Камітэт БСРР адпусьціў 250 рублёў на прывод магілы пісьменьніка ў поўны парадак.

# БАНДЫ і НАПАДЫ.

### Разгром Магілянаў.

У ночы з пятніцы на суботу, у 12 гадзіне, банда, зложаная **з 40 асоб**, напала на станцыю Магіляны (апошнюю перад радавай граніцай), Астроўскага пав., у колькінаццацёх кілямэтрах ад Здолбунова. Банда ў працягу 15 мінут гаспадарыла на станцыі, маючы ручныя гранаты і вінтоўкі. **Усё на станцыі разгромлена** З прыбыцьцем паліцыі банда ўцякла.

У ноч на 28/IX у вёсцы Вякоўна акружана часьць банды, якая зрабіла напад на Магіляны. Бандыты спаткалі паліцыю стрэламі. У перастрэлцы 3 бандыты ўзяты раненымі, сярод іх адна жанчына.

### Пагоня за лунінецкімі бандытамі.

Пагоня за ўчасьнікамі лунінецкага нападу прадаўжаецца. У Багданаўцы, на поўнач ад месца нападу, схоплены чацьвёра západазроных. Уся банда падзялілася на некалькі часьцей: адзін атрад пайшоў на поўнач да Блоцінцаў, другі на поўдзень у Ліпінскія балоты.

З Бярэсьця наказуюць, што пагоня не дала дагэтуль пазытыўных рэзультатаў. Запраўдныя бандыты ўцяклі ў бязьмежныя лясы і балоты, а схопленыя паліцыяй асобы зьяўляюцца сумліўнымі: няма ніякай пэўнасьці, што гэта запраўдныя ўчасьнікі нападу.

Ведама,—трэба-ж знайсьці вінавайцаў, дык і знаходзяцца.

Есьць чуткі, быццам каля радавай граніцы чакаюць варачаючыхся бандытаў 600 каваляры-стаў, каб адбіць пагоню...

### Каля Стоўпцаў яшчэ банда!

Каля Стоўпцаў у лесе паліцыя, папярэджаная аб засеўшай там бандзе, зрабіла аблаву і быццам, як піша „Kur. Por“., захапіла добра ўзброеных бандытаў.

### Новая банда каля Лунінца.

„Kur. Por.“ наказуе, што каля радавай граніцы ў вёсцы Маканы зьбіраецца новая банда, якая мае мэтай памагчы адбіцца ад пагоні лунінецкай бандзе і пагражае нападам ужо на самы Лунінец.

### Крывавы напад.

„Kur. Por.“ наказуе аб нападзе на фальварак Юзэфін, у Бярозаўскай гміне, у Столінскім пав. Банда складалася з 10 асоб, якія абрабавалі фальварак. Адміністратар Астроўскі, які прабаваў бараніцца, забіты; два яго памоцнікі цяжка ранены. Пасьля нападу банда з поўнымі фурманкамі адыйшла. Аб выніках пагоні нешта ня чуваць.

### Новы напад на цягнік.

У цягнік, які йшоў з Кракава ў Крыніцу, ў ноч на 28-га верасьня некалькі бандытаў пачалі страляць. Некалькі куляў прабілі вагоны 3-й клясы. Машыніст пусьціў цягнік поўным ходам і гэтак ухіліўся ад нападу.

### Напад на касьцёл і плебанію.

У ноч на 27-га верасьня ў Дзяркоўшчыне, Дунілавіцкага павету, тры ўзброеных бандыты напалі на касьцёл і плебанію, зрабавалі царкоўную чашу і трэбавалі грошаў. Калі ксёндз адмовіўся выдаць грошы, дык бандыты пачалі яго мучыць, прыпякаючы бакі агнём. У рэзультаце заграблена часьць срэбных манэтаў.

### Напад на плебанію.

24-га верасьня ў белы дзень — у 2 гадзіне папалудні—6 узброеных бандытаў напалі на плебанію у Парындзе, Сьвянцянскага пав. Зьвязаўшы гаспадыню і слугу ксяндза, пачалі шукаць дабра. Забраўшы грошы і рэчаў на 200 злотых, бандыты, не зрабіўшы нічога ксяндзу, адыйшлі.

### Адбіты напад.

У ноч на 19-га верасьня 3 ўзброеных карабінамі бандыты напалі на фальварак Мясата, Красносельскай гміны, але жыхары фальварку адбілі напад, прычым 2 бандыты ранены.

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Аб перамене ўраду.

У Варшаве ходзяць моцныя чуткі аб тым, што ўрад п. Грабскага будзе перастроены. На чале габінэту мае стаяць сучасны ваенны мін. ген. Сікорскі, уплывы якога ў урадзе растуць ня днямі, але гадзінамі...

Што датычыць „Крэсаў“, дык у ўрадавых кругах змагаюцца два кірункі: адзін стаіць бязумоўна за „цьвёрдую руку“ (— „перш успакаеньне, а пасьля рэформы“), а другі, наадварот, вымагае паразуменьня з „разважнымі“ элемэнтамі з беларускага і украінскага грамадзянства на „Крэсах“. Пры гэтым перадаюць, што гэтых „элемэнтаў“ перасталі ўжо шукаць у віленскай „беларускай грамадзянскай шулерні“... Гэтых так паважаных сярод віленскіх адміністратараў паноў Варшава лічыць для сябе залішне бруднымі і кампраміту ючымі...

### Нарады ў справе школы меншасьцяў.

У мінулым тыдні ў міністэрстве асьветы адбылося колькі нарад з учасьцем куратараў усходніх акругоў у справе правядзеньня ў жыцьцё новага закону аб школах нацыянальных меншасьцяў.

### „Крэсавыя“ справы ў Радзе Міністраў.

1 кастрычніка адбылося паседжаньне Рады Міністраў, на якім мін. унутр. спраў Гюбнэр даў справаздачу аб рэзультатах свайго аб'езду „Крэсаў“.

### Адстаўка ваяводы Довнаровіча.

Палескі ваявода Довнаровіч, які быў распрануты да кашулі бандытамі пры Лунінецкім нападзе і, як кажуць сьведкі, крэпка высьцебаны „пад квітанцыю“ публічна, падаў просьбу аб адстаўцы.

Адстаўка, як падае „Dz. Wil.“, прынята мін. Гюбнэрам.

## Заграніцай.

### Папа проці барацьбы з фашызмам.

Рымскі Папа сказаў дэлегацыі клерыкальных студэнтаў, што добрыя каталікі не павінны прыймаць учасьця ў барацьбе італьянскае апазіцыі з фашыстамі. Гэтак Папа выразна стануў на старане фашыстаў.

### Канфлікт французскага ўраду з Ватыканам.

Урад Эрыо скасаваў дыпляматычнае прадстаўніцтва Францыі пры двары Папы, якое пасьля шмат гадоў перарыву ўзнавіў Пуанкарэ.

Гэта выклікала вялікае абурэньне ў Ватыкане, якое вылілася ў пратэстуючым пісьме кардыналаў да французскага ўраду.

На гэты ліст пратэсту Эрыо ад імя ўраду апублікаваў адказ, у якім кажа, што пастанова скасаваць пасольства ў Ватыкане—лягічнае пасьледзтва ўсяе праграмы новага сацыялістычнага ўраду, якая перамагла на выбарах. Гэтая перамога паказала, што вялікая большасьць французскага народу не зьмяніла сваіх вялікіх пуцяводных ідэяў і лёзунгаў, пераказаных Францыі Вялікай Рэвалюцыяй.

### Аб уваходзе Нямеччыны ў Лігу Народаў.

Нямецкі ўрад паслаў Мак-Дональду і Эрыо мэмарандум у справе ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў. Нямецкі ўрад не публікуе сам свайго мэмарандуму і просіць іншыя ўрады таксама трымаць пакуль што ў сакрэце яго зьмест (?)

### Аружны англа-турэцкі канфлікт.

Ня вельмі веручы ў справядлівасьць палюбоўнага суду ў справе Мосулю, Турцыя пачала папросту сілаю адбіраць назад захопленую ў яе ў часе вайны англійцамі Мэсапатамію. Ідзе запраўдная вайна. Англійскі ўрад лічыць палажэньне вельмі паважным.

Як ведама, Англія дзеля таго захапіла Мосуль, каб карыстацца вялізарнымі крыніцамі газы ў гэтай краіне.

### Згода сэрбаў з харватамі.

Пасьля перагавораў партыі Радзіча (харвацкіх незалежнікаў) з новым дэмакратычным урадам Югаславіі, Радзіч выпусьціў адозву, у якой сцьвярджае паразуменьне паміж сэрбамі і харватамі.

Адозва, прызнаючы, што Югаславія і яе ўрад здольны забясьпечыць усім народам нацыянальнае і сацыяльнае разьвіцьцё, заклікае харватаў спыніць барацьбу проці югаслаўскай дзяржавы і абвяшчае аб магчымым хуткім уваходзе ў габінэт некалькіх сяброў харвацкае партыі.

А вось толькі што Пашыч і яго ўрад лічылі партыю Радзіча „горшай за камуністаў“, сам Пашыч ня мог прыехаць да краю, а жыў у Вене ці ў Маскве, а ўсе дэпутаты яго партыі нават байкатавалі парлямант!

Усюды нешта робіцца дзеля згоды народаў, толькі ў нас усё стаіць на мёртвым пункце...

### Замах на караля Югаславіі?

Наказуюць, што югаслаўскі ўрад атрымаў паведамленьне, быццам правадыр баўгарскіх камуністаў, Протом'ераў, даручыў 4 асобам забіць югаслаўскага караля. У Белградзе—перапалох. Кароль спыніў усе прыёмы і сядзіць у хаце. Паліцыя шукае гэтых асоб, але надарэмна.

### Генарал Буденны ранены?

З Лёндану падаюць вестку з грузінскіх крыніцаў, быццам ген. Буденны цяжка ранены грузінскім паўстанцам.

### Арышты камуністаў у Эстоніі.

Паводле вестак з Эстоніі, там зроблены масавыя арышты камуністаў. Быццам знойдзены ў іх вялізарныя сумы грошы, паходзячыя з Масквы —на прапаганду.

### Бомбы ў Лісабоне.

У Лісабоне (сталіцы Партугаліі) на вуліцы ўзарваліся 2 дынамітныя бомбы, якія забілі і ранілі шмат людзей і прычынілі многа стратаў.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Абедзьве паўдзённыя арміі вядуць барацьбу ўжо ў раёне Шанхаю. Шанхай ужо — на лініі агня.

Англійскія газэты пішуць, што ў вайне прымаюць значнае ўчасьце расейская артылерыя, аэрапляны, а такжа і... грошы!

А вось заметка з газэты „Сегодня“ № 199, 3-га верасьня.

### Три дня в Минске.

Мнѣ удалось совершить интересную поѣздку — съѣздить на три дня въ столицу Совѣцкой Бѣлоруссіи Минскъ.

Минскъ сейчас городъ очень оживленный. Чувствуется близость границы, которая питаетъ городъ. Минскъ—громадное складочное мѣсто, центральный пакгаузъ приходящей изъ за польской границы контрабанды. Торговля ею производится совершенно открито.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Въ „великорусскомъ централизмѣ“ большевики видятъ опасность для прочности своей власти и потому ихъ политика уже давно балансируетъ между собственнымъ централизмоми и желаніемъ бороться съ централизмомъ національнымъ. Въ результатѣ получается централизація административнаго аппарата власти и децентрализація населяющихъ Россію національностей.

Опытъ развитія центробѣжныхъ національныхъ стремленій съ возможностью отказаться отъ культурныхъ связей съ Великороссіей далъ любопытные результаты. Оказалось, что въ рядѣ случаевъ „самостійничество“ политическое и культурное вовсе не такъ велико.

Въ Минскѣ это чувствуется особенно сильно. Каждый „гражданинъ СССР“ имѣетъ тамъ полную возможность говорить, писать и обучать своихъ дѣтей на бѣлорусскомъ языкѣ. Между тѣмъ, въ Минскѣ мало кто говоритъ, читаетъ и обучаетъ своихъ дѣтей на языкѣ бѣлорусскомъ. Поляки и евреи пользуются своими языками, а все православное населеніе — русскимъ.

Если въ Минскѣ и существуетъ какое-то „бѣлорусское движеніе“, то существованіе его вызывается второй цѣлью совѣцкой политики—желанімъ повліять на настроенія бѣлорусского населенія Польши. Университетъ съ преподаваніемъ на русскомъ языкѣ называется поэтому „бѣлорусскімъ“ и этотъ эпитетъ прилагается ко всякому культурно-просвѣтительному начинанію. Такъ создается впечатлѣніе, что Минскъ—дѣйствительно культурный центръ Бѣлоруссіи. Но большевики идутъ и дальше—каждый бѣженецъ изъ Польши, каждый дезертиръ изъ польскай арміи въ Минскѣ—желанный гость. Онъ пользуется тамъ полнымъ равноправіемъ, и наиболѣе способные обрабатываются въ Минскѣ большевиками въ надлежащемъ духѣ. Въ Минскѣ же печатается значительная часть той антипольской и коммунистической литературы, которая потомъ въ десяткахъ тысячъ экземпляровъ распространяется на территоріи польсксй части Бѣлоруссіи.

**Случайный.**

Параўнуйце гэтыя дзьве „карэспандэнцыі“. Літэратурная крадзежа і правакацыя „Грамадзкага Голасу“ б'е ў вочы. Бо-ж тую брахню маскоўскія ненавісьнікі нашага народу публікуюць дзеля ганьбы беларусам, а гэны самы быццам-то беларускі „Голас“ падае, як голас свайго карэспандэнта беларуса!

**Касавокі.**

# ХРОНІКА.

**Падатак на беларускую навуку.** У сувязі з праектаваным у будучым годзе сьвяткаваньнем 400-лецьця закладзінаў у Вільні д-рам Францішкам Скарынай першае друкарні (беларускае), Беларускае Навуковае Таварыства пастанавіла дэлегаваць сябра свайго прэзыдыуму, пасла праф. Тарашкевіча, у Прагу Чэскую (дзе распачаў сваю друкарскую працу Скарына), каб у тамтэйшых архівах прасачыць усе магчымыя сьляды працы нашага першага друкара.

Праф. Тарашкевіч зьвярнуўся да п. Камісара Ураду на м. Вільню з просьбай аб выдачу яму льготнага заграрнічнага пашпарту (за 20 злотых), як гэта прадугледжана ў законе для навуковае падарожы.

Аднак, п. Камісар Ураду адмовіў яму ў выдачы льготнага пашпарту, прапануючы заплаціць за заграрнічны пашпарт ня 20 злотых, а 500 злотых.

Як бачым, у Польшчы ўлада ня толькі скасавала ў Віленскім Унівэрсытэце навуку аб Беларусі і беларусах (нейкі час істнавала там катэдра беларусазнаўства, ды пасьля была скасавана!), але і самым беларусам не дае магчымасьці навукова працаваць над гісторыяй сваей культуры, накладаючы на беларускую навуковую працу вялізарны падатак у суме 500 злотых!

Няўжо-ж пасьля гэтага могуць яшчэ быць наіўныя людзі, якія вераць у магчымасьць беларуска-польскага зьліжэньня на грунце культурнага супрацоўніцтва? І што скажуць цяпер аб гэтым супрацоўніцтве польскія дэмакраты з „Польска-Беларускага Т-ва“ — ідэйныя аднадумцы п. Вімбора?!...

12-га кастрычніка адбудзецца агульны сход Беларускага Т-ва помачы пацярпеўшым ад вайны ў памешканьні гімназіі (Вострабрамская 9) а 4 гадзіне папаўдні.

Парадак дня:

1) Справаздача Камітэту аб дзейнасьці яго за мінулы год.
2) Зьмена статуту.
3) Выбары Камітэту.
4) Бягучыя справы.

Калі сход не адбудзецца 12-га кастрычніка, дык наступны будзе 17-га кастрычніка, а 4 гадз. ў тым-жа памешканьні, правамоцны пры ўсялякай лічбе прысутных.

**Справа аб забойства мітрапаліта Юрыя.** У Варшаве закончыўся новы разгляд справы Смарагда аб забойства мітр. Юрыя.

Справаздачу дамо ў чародным нумары.

### ПАПРАУКА.

№ 1 „Сялянская Праўда“ у Карэспандэнцыі „І сабакам ня соладка“ надрукавана „сабака кіраўніка Радашкаўскай пав. школы“ заместа „кіраўнічкі пав. школы п. **Мані Франі**“.

## Да школьнае справы.

Вельмі часта здараецца, што войты гмін адмаўляюцца сцьвярждаць подпісы на прыгаворах аб адчыненьні беларускіх школ, або трэбуюць ад кожнага подпісу па 2 зл.

У першым выпадку Б. Ц. Ш. Р. просіць паведаміць яе, паказаўшы імя і прозьвішча такога пана, а ў другім рабіць так: подпісы сялян няхай заверыць Солтыс, (вясковы, або абвадовы), а войт—толькі подпіс солтыса, дык тагды давядзецца плаціць толькі за адзін подпіс Солтыса.

## Карэспандэнцыі.

### Рух у Горадзеншчыне.

З 1 кастрычніка 1924 г. ўваходзяць ў сілу так званыя „языковыя законы“.

Усюды народ беларускі загаварыў аб арганізацыі школ у сваей роднай мове.

На вялікі жаль, у Горадні нямашака ні воднай праўнай беларускай арганізацыі, куды можна было-б зьвярнуцца і атрымаць тую ці іншую інфармацыю. Шкода, што нашы паслы не парупіліся аб тым, каб ў Горадні істнавала беларуская арганізацыя.

Новыя законы даюць хоць мінімальныя правы для беларускага народу. Трэба, паміж іншым, мець на ўвазе, што ніколі сама ўлада ня будзе дбаць аб беларусу, ці украінцу, пакуль мы самі не патрэбуем таго, што для нас дазволена. Няхай кожны беларус заявіць адкрыта: мы трэбуем, каб законы былі не на паперы, а ў жыцьці, трэбуем беларускіх школ, беларускіх арганізацыяў, пасадаў для нашых людзей, усюды беларускую мову і г. д.

Досіць спаць, пара ўставаць. І праўда, ўсюды беларусы заварушыліся. Вось, маем прыклад. Пачаўся вучэбны год. Ніводзін беларус не паслаў свайго дзіцяці ў польскую школу, як было і раней, ды цяперака заявілі, што трэбуем сваей беларускай школы.

Заварушыліся і вучыцялі. Прыяжджаюць ў Горадню, спатыкаюць таго ці іншага беларускага дзеяча, абменіваюцца думкамі і з гэтым разыходзяцца. У Горадні ёсьць беларуская пачаткавая школа, дзе 8 вучыцялёў, якім трэба парупіцца аб арганізацыі павятовай школьнай Рады, якая бы і ўзяла на сябе школьныя абавязкі. Вучыцялі зварачываюцца да школьнага інспэктара аб адкрыцьці беларускіх школ, але-ж інспэктар адказывае, што ён нічога яшчэ ня ведае, бо ня атрымаў законаў, і калі што будзе, то не раней, як пасьля 1 кастрычніка 1924 г. N.

### Наша сямігодка.

(*Горадня*).

У Горадні ад нямецкай акупацыі істнуе беларуская пачаткавая 7 клясовая школа, якая і сёньня йдзе поўным ходам.

1 верасьня 1924 г. пачаліся заняткі. Налічываецца каля 400 вучняў. Заняткі йдуць на дзьве зьмены: па дзьве групы I і II клясы — да абеду, а апошнія 5 клясаў — пасьля абеду.

Шмат вучняў яшчэ зьяўляюцца, але-ж няма болей мейсца. Трэба было-бы парупіцца аб адкрыцьці другой беларускай школы ў Горадні. N.

### На беларускаю школу грошы няма?!

(*З Вялейскага пав.*).

На ўсе захады сялян в. Новая-Гута і пастанову Іньскай гміннай рады аб адкрыцьці беларускай школы ў в. Н.-Гута, школьны інспэктар Вялейскага пав., прыехаўшы на мяйсцовае дазнаньне, сказаў: „Разумею, што школа патрэбна, будынак — добры, але школы не адчыню: няма грошы!“

Сяляне, хочучы вучыць сваіх дзяцей у роднай школцы, згадзіліся да новага году ўтрымліваць школу на свой кошт і аб гэтым паведамілі п. інспэктара.

Інспэктар, як кажуць, прыцісьнуты да сьцяны, сказаў: „Прыгавары паноў пашлю да куратара, а што пастановіць куратар — ня ведаю...

Думаю, што школы не адчыню, бо міністэрства вельмі мала дае грошы на школы, а новых зусім не пазваляе адчыняць“.

Калі-ж гэта й на беларускія школы будуць грошы?

**Х.**

### Прыгон нават у сьвята.

(*Маладэчна, Вялейскага пав.*

Не вядома, ці мы ўжо запісаны ў кніжку людзей, ці толькі яшчэ кандыдатамі: але факт той, што нас яшчэ лічаць за скаціну і за ўласнасьць паноў. Ёсьць у нашай гміне маёнтак Забэліна, графа Тышкевіча. Ад гэтага маёнтку ёсьць дарога, каторая выходзіць на гасьцінцовую дарогу Маладэчна—Гарадок.

Вядома, як пан гэтай дарогай карыстаўся і карыстаецца, дык ён яе і рапараваў ды ня самжа, а нашымі рукамі, але плаціў за гэтую работу, дзеля прылікі. А тут сёлета пан пачуў сябе гаспадаром ня то свайго маёнтку, але і вёсак. І вось, паразумеўшыся з уладай, пачалі рапараваць гэту дарогу **інжынеры**: выганяюць да гэтай работы па колькі душ з хаты, падводы — і ўсё гэта бяз грошы, дарма, у гэтакі дарагі час для нас, вяскоўцаў. Карыстаючыся нашай цемрай, дзяруць, сколькі ім уздумаецца і пакуль паддаёмся.

Алеж гэтага мала для пана, што селянін і работнік аддаець яму сваю працу, свой аканамічны дабрабыт: ён хоча пазьдзекавацца над душой, абсьмяяць цябе і павесяліцца з тваiго смутку. Так яны й зрабілі. 15 жніўня г. г. па старому стылю, як вядома, у нас сьвята: Усьпеньне Сьвятой Дзевы Марыі. Дык вось падтасавалі на гэтае чысло выгнаць тры вёскі: Адамовічы, Гаравіны і Мысьлевічы; (усе праваслаўнага вызнаньня), каб правіць панскую дарогу. Старэйшыя прасіліся, каб адлажыць на другі дзень, што працаваць у сьвята грэх, але не паслухалі, пагналі, а хто ўпіраўся, дык да „пакі“, кажа, пасадзім! На рабоце сьмяяліся, што „кацапскага“ сьвята ўжо няма, і інжынер застаўляў: сеч гальлё, пілаваць і г. д., каб паказаць, што не шануе нашага сьвята.

**Адамавец.**

### „Бандыты“.

(*вёска Ручэй, Дзісьненскага пав.*).

7./IX г. г. ў в. Ручэй зьявіліся два паліцыянты. У вёсцы якраз было ігрышча, на каторым было шмат маладзёжы і з другіх вёсак. Узрадаваўшыся, што папалі на „бандытаў“, паліцыянты пачалі правяраць дакумэнты. У каго былі пакумэнты, тых выкідалі за дзьверы, а ў каго ня было, тых зганялі ў асобны куток. Такім простым спосабам яны злавілі каля дваццацёх „бандытаў“.

Цікава, што „бандытаў“ не павялі на пастарунак, як гэта трэба, а павялі ў тыя вёскі, скуль яны родам. Зайшоўшы ў в. Мікалаева і прыгнаўшы перад сабой Мілідовіча, Абаровіча, Адзінца, Рублеўскага і др., зайшліся да Мілідовіча. Бацькі ўбачыўшы над сваім сынам паліцыю з стрэльбамі, пачалі прасіць сесьці, а самі ўзяліся: шчапаць лучыну і штось варыць на прыпечку. Паліцыянты згадзіліся, селі, а як зьявілася закуска ды бутэлька на стале, то рэшта...

Рэшта?—так дамоў пайшлі!

**В. Гаротны.**

### З жыцьця рабочых.

(*Івацэвічы, Косаўскага пав.*).

Работнікі на тартаку Івацэвічы аж ад мая не атрымоўвалі платы. Адміністрацыя на пытаньні работнікаў, калі будзе выплата, прапанавала браць тавары з крамы. Вядома, тавары тыя непатрэбны былі, калі іх ня бралі работнікі.

Вось, за што працуе ў нас работнік.

Работнікі на чыгунцы заўсёды маюць дзень выплаты 1 і 15 кожнага м-ца, але ў гэтым м-цы, верасьні, атрымалі аж 6—8, дый яшчэ ўсе 100 зл. банкнотамі, якія, каб разьдзяліць на колькі чалавек, трэба колькі злотых аддаць таму, хто разьменіць. Вядома, спэкулянтам гэта на душы!

Паміма гэтага многа ёсьць такіх работнікаў, якім не дадаюць па колькі дзён, або няма запісаных у табэлі.

Вось якое жыцьцё нашае ваколіцы.

**Чурбан.**

## Паштовая скрынка.

**Нашым карэспандэнтам:** „Беларусу“ з Харошчы, „Тутэйшаму“ з Жыровіц, Хвойцы — з Валожынскага пав., Т. з Сычавіч, М. К. з Маладэчна, Зязюлі з Дзісеншчыны, Хведчэні з Блудэня — вашыя карэспандэнцыі былі зьмешчаны ў № 42 „Сына Беларуса“, якія паліцыя сканфіскавала. Ня ведаючы прычыны канфіскацыі, перадрукаваць не адважаемся!

**Яну Балашу, Вячаславу Войшэвічу, Ціхану Петрашкевічу, Міхалу Гучку, Тодару Казлоўскаму, В. Топцы, Пятру Букато, Уладзім. Бэзушко, Станісл. Боборыко, Міхалу Бабіло, Я. Касьцюкевічу, Сьцяпану Трацяку, Антону Макарэвічу, Яну Кундышу, Мікалаю Трахімчыку, Ціхану Бухоўцу і Яну Можэйко** — ад усіх па 2 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **Уладзіміру Кунашу** і **Аляксандру Моцкале** — па 4 зл. атрымалі. Газэта высылаецца. **А. Залескаму** — 10 зл. атрымалі. **Бабровічу** — 4 зл. атрымалі. Адрас пераменяем. **Аляксандру Міхновічу** і **П. Тымошэвічу** — па 6 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **Язэпу Шыркоўцу** — 5 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **Яну Дэмьяновічу** — 3 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **Ст. Эпімах-Шыпілу** — 12 зл. атрымалі. Газэту будзем высылаць, паводлуг Вашага жаданьня. **С. Грышчуку** — прычына неатрымліваньня Вамі газэты такая: на грашавым пераводзе адрас быў няпоўны, а прозьвішча Вашае асталося на адрэзанай часьці пераводу; дзеля гэтага мы не маглі газэты высылаць. Цяпер высылаем і думаем, што будзеце яе атрымліваць акуратна.



### АБВЕСТКА.

Анна Вершак шукае сваіх сыноў **ЗЫГМУНТА, ІВАНА і БОЛЕСЛАВА ВЕРШАКОЎ**, якія былі ў чырвонай арміі і асталіся ў Расеі.

Адрэс: Польшча, ф. Мігаўка, Радашкоўскае вол., Вялейскага пав. А. Вершак.



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**. Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.